












АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

5 ліпеня 2000 года

Цана 85 рублёў

№ 27 (2689)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


## МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ

**Так сталася, што доўгі час "Голас Радзімы" не атрымліваў ніякіх звестак ад беларусаў Малдовы. Зразумела, гэта непакоіла. І раптам сувязь аднавілася: адно за адным пачалі прыходзіць зацікаўленыя пісьмы, якія сведчылі аб існаванні суполак, жаданні ўмацаваць кантакты з Беларуссю. Вядома, што ў Рэспубліцы Малдова сёння пражывае каля 20 тысяч грамадзян беларускага паходжання: прыкладна палова з іх апынулася ў Прыднястроўі. Беларуская супольнасць зведала практычна ўсе праблемы, звязаныя з працэсам суверэнізацыі гэтай краіны і сёння шукае падтрымкі ў сваёй этнічнай радзімы. У пэўным сэнсе гэтая актыўнасць падштурхнула выкарыстаць магчымасць наведаць Малдову.**

**Дзякуючы Пасольству Беларусі ў Малдове, удалося атрымаць уяўленне аб становішчы беларусаў па абодва бакі Днястра як ад непасрэдных сустрэч з імі, так і з гутарак з афіцыйнымі асобамі, у тым ліку давялося сустрэцца з Прэзідэнтам Малдовы Петру Лучынскім. Сустрэча адбылася праз некалькі дзён пасля наведвання гэтай краіны Прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным і напярэдадні афіцыйнага візіту П. Лучынскага ў Беларусь. З гутаркі з Прэзідэнтам Малдовы і хочацца пачаць "Малдаўскія ўражанні".**

— Заканчэнне на 2-й стар. —

## ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ



У цэнтры Мінска, у Міхайлаўскім скверы, побач са знакамітымі фігурамі "Чалавек, які стаіць на люку" і "Мінчанка на лаўцы" з'явілася яшчэ адна скульптура — "Басаногая дзяўчынка з парасонам". Над яе стварэннем працаваў скульптар Уладзімір Жбанаў. Гэта яго трэцяя работа, якая і завяршае задуманую кампазіцыю.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## АФІЦЫЙНА

**НАПЯРЭДАДНІ САМІТА Ў ААН. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыме ўдзел у саміце кіраўнікоў дзяржаў — членаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, які пройдзе 6—8 верасня ў Нью-Йорку.**

Сустрэча кіраўнікоў дзяржаў праводзіцца па рашэнню генеральнай Асамблеі ААН і ўжо атрымала статус "Саміта тысячагоддзя". На ёй плануецца абмеркаваць важнейшыя праблемы чалавецтва, якія неабходна вырашаць у будучым стагоддзі. Выступленне Прэзідэнта Беларусі запланавана на другую палавіну дня 6 верасня. Па ліку яно будзе шостым. Акрамя таго, прадстаўнікі Беларусі прымуць удзел у рабоце чатырох "круглых сталоў".

**КРОК ДА НАВЕЙШЫХ ТЭХНАЛОГІЙ. У канцы мая Беларусь стала паўнапраўным членам Групы ядзерных пастаўшчыкоў (ГЯП).** Членства нашай краіны ў гэтай арганізацыі было аформлена працэдурай абмена дыпламатычнымі нотамі. Разам з Беларуссю на гэтым пасяджэнні таксама былі адобраны кандыдатуры Кіпра і Турцыі. Як паведамілі ў прэс-службе Міністэрства замежных спраў, уваходжанне ў групу ядзерных пастаўшчыкоў аблегчыць нашай краіне доступ да навейшых тэхналогій, дасць магчымасць уплываць на міжнародную экспартнакантрольную палітыку ў ядзернай галіне. Да апошняга часу група аб'ядноўвала разам з Расіяй і Украінай 35 дзяржаў.

## ЗНАЙСЦІ ЧАЛАВЕКА



### ПА ДАРОЗЕ З ГЕРМАНІІ Ў БЕЛАРУСЬ ЗНІК БЕЛАРУСКІ АКЦЁР Андрэй БУБАШКІН

Прайшоў год з часу знікнення беларуса Андрэя Бубашкіна. Ён быў вядучым акцёрам Тэатра-студыі кінаакцёра. Здымаўся ў фільмах "Пераправа", "Плач перапёлкі", "Полымя", іншых.

Фатальным для яго стаў монаспектакль "Каханне смешнага чалавека" па Фёдару Дастаеўскаму, які прынёс акцёру гучны поспех. Менавіта з гэтым спектаклем Андрэй Бубашкін быў запрошаны ў Германію, дзе гастраліраваў на працягу месяца. У Германіі на атрыманы ганарар ён набывае аўтамабіль "Honda Civic" MS121C і, патэлефанаваўшы дадому, 30 мая 1999 года выязджае з горада Мюнстэра ў напрамку Франкфурта-на-Одэры. Вязе сыну ролікавыя канькі: у Мінску чакае сям'я. Што з ім адбываецца далей, невядома. Бубашкін знікае.

Па лініі Інтэрпола расшукваюцца 1 000 грамадзян Беларусі, якія зніклі, магчыма, за межамі краіны. Але гэтая вялізная лічба не суцяшае ні сям'ю Бубашкіна, ні астатнія 999. Яна сведчыць пра нядольнасць праваахоўных сістэм розных краін узаемадзейнічаць і дамагацца станоўчага выніку. У такой сітуацыі неабходныя ўдзеянне грамадскасці і ўсведамленне каштоўнасці кожнай чалавечай асобы.

У пачатку чэрвеня ў мінскім Тэатры-студыі кінаакцёра сабраліся члены сям'і Бубашкіна, акцёры, журналісты, палітычныя дзеячы краіны, каб заявіць, што справа са знікненнем артыста не можа быць безвынікова закрыта.

Старшыня Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Мікалай Чаргінец падкрэсліў, што, нягледзячы на звароты родных Бубашкіна, творчых саюзаў РБ у Інтэрпол, польскую, германскую паліцыю, ніякіх слядоў акцёра не выяўлена. Адзіны факт, які быў паведамлены з Германіі: машына Андрэя Бубашкіна не зарэгістравана ў дарожна-транспартных аварыях. Але няма ўпэўненасці, што ён не перасякаў германска-польскую мяжу: пераход праз яе не рэгістрыруецца. Таму ягоныя сляды варта шукаць і ў Польшчы. Але спецслужбы гэтай краіны амаль нічога не зрабілі для пошуку. Адказы спецслужбаў ФРГ Мікалай Чаргінец назваў бюракратычнай адпіскай.

Па-першае, ні ў Германіі, ні ў Польшчы не быў праведзены аператыўны пошук. Відавочна, што на тэрыторыі ФРГ ці Польшчы Андрэй павінен быў запраўляць машыну, недзе спыняцца для адпачынку. Аднак сведкаў гэтага не знойдзена. Па-другое, толькі нядаўна ўпаўнаважаныя органы згадзіліся прыняць відэаматэрыялы, прысвечаныя Бубашкіну. Але ні ў ФРГ, ні ў Польшчы іх не паказалі. Таксама адмаўляюцца дэманстраваць іх і расійскія каналы (родныя спадзяюцца, што Бубашкіна маглі бачыць расійскія грамадзяне, якіх шмат на дарогах Польшчы і Германіі). Па сітуацыі, што склалася са знікненнем Андрэя Бубашкіна, можна меркаваць, наколькі дзяржаўныя структуры заклапочаны лёсам чалавека, наколькі Беларусь у стане абараніць яго за сваімі межамі, наколькі паважаюць нашы інтарэсы за рубяжом.

**Алена СПАСЮК.**

## СПОРТ

● **У ГОМЕЛІ АДКРЫЎСЯ ЛЯДОВЫ ПАЛАЦ.** Гэта збудаванне ўзвялі будаўнікі "Гомельпрамбуда". Па словах мэра горада Аляксандра Якабсона, з шасці лядовых палацаў, якія існуюць у рэспубліцы, гомельскі — самы ўдалы па дызайну. Ён разлічаны на 2 700 месцаў, але, трансфармуючыся ў канцэртную пляцоўку, можа прыняць да 4 000 гледачоў. А гэта гарантуе прывабнасць для "зорак" любой велічыні.

● **СПАРТЫЎНАЯ ХАДЗЬБА.** Права прадстаўляць Беларусь на Алімпійскіх гульнях у Сіднэі завявалі яшчэ чатыры спартсмены: Наталля Місюля з Гродзенскай вобласці, Ларыса Хмяльніцкая, Міхаіл Хмяльніцкі з Мінскай і Андрэй Макараў з Брэсцкай, якія не толькі сталі прызёрамі чэмпіянату рэспублікі ў спартыўнай хадзьбе на 20 кіламетраў, але і перавысілі кваліфікацыйны нарматыў, неабходны для ўдзелу ў прэстыжных міжнародных спаборніцтвах. 1 гадзіна 28 хвілін 24 секунды, якія спатрэбіліся Наталлі для праходжання дыстанцыі, да таго ж — новы рэкорд Беларусі.

МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ

# Петру ЛУЧЫНСКІ: «РЭФОРМЫ ПРАХОДЗЯЦЬ БАЛЮЧА, І ЧУЦЬ СЛОВЫ ЎДЗЯЧНАСЦІ НЕ ДАВОДЗІЦЦА...»



*Петру ЛУЧЫНСКІ.*

Пачатак на 1-й стар.

**— Як сцісла можна расказаць, што ўяўляе сабой Малдова сёння! Якія, на погляд кіраўніка краіны, шляхі яе развіцця!**

— Малдова — дзяржава, пра якую, думаю, добра ведаюць на Беларусі: абедзве краіны ўваходзілі ў склад Савецкага Саюза. Малдова — гэта краіна, насельніцтва якой — 4,3 мільёна чалавек, складае даволі разнастайную гаму нацыянальнасцей. Акрамя малдаван, якіх налічваецца каля 65 працэнтаў, вялікімі групамі здаўна жывуць украінцы, рускія, гагаузы, балгары, існуе яшчэ 16 нацыянальных супольнасцей, у тым ліку, і беларуская. Лічу, што ў нашай краіне даволі ліберальнае заканадаўства. Што тычыцца развіцця моў нацыянальных меншасцей, ніхто не адчувае ціск. Зразумела, ёсць момант, які стварае пэўныя цяжкасці: у краіне адна дзяржаўная мова — малдаўская. Але мы не сталі прыспешваць падзеі, прымушаць усіх грамадзян карыстацца гэтай мовай. Аднак моладзь мае ўсе магчымасці для яе вывучэння. А ўвогуле для Малдовы сёння характэрнай з'яўляецца неабходнасць ведаць тры мовы: малдаўскую, рускую і адну з заходнееўрапейскіх. Гэта норма для моладзі, якая рыхтуецца да жыцця. Я мяркую, што моўны працэс прыспешваць немагчыма, але мы ствараем умовы для развіцця моў.

Малдова вызначыла свой шлях як незалежная і суверэнная дзяржава, якая робіць усё, каб інтэгравацца ў Еўропу. Аднак хачу акцэнтаваць увагу, што гэта імкненне не азначае празападнай пазіцыі Малдовы, таму што ў Еўропу інтэгруюцца і Расія, і Украіна, і Беларусь, усе, хто знаходзіцца да Урала, як мы ўяўляем межы Еўропы. Мы ўсё жывём ва ўмовах менталітэту, які усталяваўся ў савецкія часы, стэрэатыпы ж пераадольваюцца марудна і трэба глядзець рэальна на гэтыя працэсы.

Далей, Малдова — дзяржава, якая мае значны эканамічны і навуковы патэнцыял, але пакуль выкарыстоўвае яго на ўзроўні 40 працэнтаў, многае страчана. Краіна адчувае вялікія цяжкасці з энергазабеспячэннем, таму што не мае энергетычных крыніц. Але у нас ёсць надзвычай урадлівая зямля. Малдова займае першае месца ў свеце па наяўнасці ўрадлівай чарназёмнай глебы: яна складае 75 працэнтаў тэрыторыі краіны. Разам з тым сялянам даводзіцца працаваць ва ўмовах рызыкоўнага земляробства — вось і ў гэтым годзе напаткала засуха. Каб наладзіць ірыгацыйную сістэму, патрэбны інвестыцыі...

Мы вядзём палітыку адкрытай краіны. Доўгі час Малдова развівалася ва ўмовах цэнтралізаванай эканомікі, цяпер паслядоўна пераходзіць да рынкавай. Практычна мы рэфармуем усе сферы жыцця, але любыя рэформы праходзяць балюча, і чуць словы ўдзячнасці ад насельніцтва не даводзіцца.

Народ Малдовы гасцінны, дружалюбны. І ўсё ж у перыяд распаду Савецкага Саюза краіне не ўдалося пазбегнуць ваеннага сутыкнення. Прыднястроўскі канфлікт не вырашаны да гэтага часу, але сёння тут не страляюць. Спадзяёмся знайсці выйсце з гэтай небяспечнай сітуацыі разам з Расіяй.

**— Зыходзячы з патрэб сённяшняй Малдовы, што Вы чакаеце ад Садружнасці Незалежных Дзяржаў, з'яўляючыся прыхільнікам зоны свабоднага гандлю!**

— Мы імкнёмся захаваць тыя ўстойлівыя сувязі і ўзаемаадносіны, якія ў нас гістарычна склаліся. Аднак трэба разумець, што ў кожнай краіны ёсць свае інтарэсы, свая спецыфіка. І ў той жа час ізаляваных эканомік няма, асабліва ва ўмовах глабалізацыі. Таму нашы ўзаемаадносіны павінны мацавацца на рэальных інтарэсах. Калі не атрымліваецца адразу моцная садружнасць, давайце знаходзіць інтарэсы агульныя для дзвюх-трох краін, і тады будзем рухацца далей.

**— Калі прааналізаваць гэтую праблему на прыкладзе адносін Малдовы і Беларусі, што на справе рэальна і магчыма з пункту гледжання лідэра Малдовы!**

— Першае, што бясспрэчна, у нас ёсць агульныя інтарэсы. Аднак існуюць супярэчнасці ў заканадаўстве: у Малдове яно больш ліберальнае. На мой погляд, сёння рэальна эфектыўнай формай эканамічнага супрацоўніцтва для нас з'яўляюцца сумесныя прадпрыемствы. Ведаю, што 10 працэнтаў УВП у Беларусі выпрацоўваюць СП з удзелам замежнага капіталу.

**— Прызнацца, вялікую цікавасць у нашай краіне выклікаў візіт у Малдову Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Якія вынікі ён меў!**

— Малдова і Расія маюць шматгадовую гісторыю актыўных палітычных і эканамічных адносін. І сёння Расія для нас стратэгічны партнёр у свеце і ў нашым рэгіёне. Аднак між намі існуюць нявырашаныя праблемы, якія хвалююць і міжнародную супольнасць. Гэта перш за ўсё датычыцца знаходжання расійскіх войск у Прыднястроўі, што стварае цэлы клубок праблем. Таму я папрасіў Уладзіміра Уладзіміравіча Пуціна знайсці магчымасць для сустрэчы, каб з самага пачатку высветліць нашы пазіцыі. Дакладна было сказана, што Расія ўспрымае Малдову як самастойную, незалежную, тэрытарыяльна цэласную дзяржаву. Што датычыцца нашых адносін, у Расіі, як падкрэсліў яе Прэзідэнт, няма жадання трымаць Малдову на "кароткім павадку". Пуцін ясна сказаў, што зброя, якая знаходзіцца зараз у Прыднястроўі, у адпаведнасці з рашэннямі Стамбульскага саміта будзе вывезена. Расія занепакоена тым, каб не паўтарыўся горкі вопыт Чачні. Таму мы вельмі задаволены гэтым візітам. У Кішынёве на вуліцы выйшла прывітаць Пуціна вялікая колькасць гараджан — людзі бачаць у Расіі краіну-партнёра.

**— Ці даводзілася Вам бываць у Беларусі, ці захаваліся асабістыя ўражанні!**

— Так. Першы раз мне давялося наведаць Беларусь у 1968 годзе. З таго часу захавалася шмат сяброўскіх стасункаў. А з нагоды 50-годдзя Рэспублікі Малдову наведаў Пётр Міронавіч Машэраў. Уразіла, што ён не губляў час на тое, што не мела карысных вынікаў. Памятаю, тады ж у размове Машэраў выказаў думку, што ўрачыстасці варта праводзіць з дзецьмі: так замацоўваецца агульнае паміж рознымі пакаленнямі.

Бывае яшчэ такі выпадак. Выкарыстаўшы запрашэнне наведаць вашу краіну, я неяк у дзень вызвалення Беларусі прывёз у шпіталь ветэранаў вайны 500 кілаграмаў персікаў з першага ўраджаю...

**— У Малдове назіраецца актуальная падзея — у снежні выбары прэзідэнта. Ці мяркуеце Вы балаціравацца на другі тэрмін!**

— Пакуль вядуцца кансультацыі. Я не стаўлю на мэце, як некаторыя, любой цаной *балаціравацца*, а зыходжу з мэтазгоднасці. Я вывучаю сітуацыю і, калі пераканаюся ў неабходнасці такога кроку, то прыму рашэнне. Магчыма ў бліжэйшыя дні...

**Наталля САЛУК.**

РАБІ, ЯК Я



Пяць гадоў таму віцяблянін Міхаіл ГУДАЎ наняў за свой кошт тэхніку і на былым балоце выкапаў сажалку прыблізна на 30— 40 метраў, затым запусціў туды карасёў. Сёння тут мірна ўжываюцца і карасі, і ракі, і нават ліні. А нядаўна Міхаіл злавіў у сваёй сажалцы карася вагой больш за 2 кілаграмы (на здымку).

**Фота Аляксандра ХІТРОВА**, БелТА.

КОРАТКА

**КОЛЬКАСЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ ЗМЯНШАЕЦЦА.** Па стану на 1 мая на тэрыторыі Беларусі пастаянна пражывала 10 мільёнаў 6 тысяч жыхароў.

Такім чынам, даводзіцца канстатаваць, што з пачатку года насельніцтва краіны зменшылася прыкладна на 13,5 тысячы чалавек.

Асноўнай прычынай змяншэння колькасці насельніцтва па-ранейшаму застаюцца натуральныя страты. Так, калі за першыя 4 месяцы года ў краіне нарадзілася 29 341 чалавек, то памерлі 48 244. Станоўчае сальда мае толькі міграцыя, бо, як сведчыць статыстыка, за гэты ж перыяд колькасць асоб, якія прыехалі ў Беларусь на сталае месца жыхарства, перавысіла колькасць тых, хто з'ехаў, прыкладна на 5,3 тысячы.

Аднак міграцыйныя працэсы нязначныя істотна паўплываць на агульную сітуацыю. Прагноз сумны: пры цяперашніх тэмпах страт ужо гэтым летам у Беларусі будзе пражываць менш за 10 мільёнаў чалавек. На гэты ўзровень насельніцтва краіна выйшла ў 1987 годзе.

**ВЫПЛАТУ ЗАРПЛАТЫ Ў МІНСКУ ЗАТРЫМЛІВАЮЦЬ УСЁ БОЛЬШ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ.** Амаль штомесяц узрастае колькасць мінскіх прадпрыемстваў, якія затрымліваюць выплату заработнай платы. Калі на першы месяц 2000 года іх было 2, то ў маі — ужо 36.

**У БЕЛАРУСІ ЗАРЭГІСТРАВАНА 2 712 ПРАДПРЫЕМСТВАЎ З ЗАМЕЖНЫМІ ІНВЕСТЫЦЫЯМІ.** У тым ліку 1655 сумесных прадпрыемстваў і 1057 замежных прадпрыемстваў, дзе працуюць 70 тысяч чалавек.

ЗДАРЭННІ

**ШАЛЁНЫ КОТ ПАКУСАЎ ТРОХ РАБОЧЫХ ФЕРМЫ.** Гэта адбылося ў калгасе "Рассвет" Глыбокскага раёна Віцебскай вобласці. Пра здарэнне паведамілі ў Рэспубліканскім штабе грамадзянскай абароны.

У штабе выказалі меркаванне, што прычынай шаленства ката, які жыў на ферме, дзе ўтрымліваецца каля 400 галоў буйной рагатай жывёлы, маглі стаць укусы шалёнай лісы. Хворы кот пакусаў людзей у той момант, калі яны спрабавалі яго злавіць, каб прадухіліць нападзенне на кароў. Аднак кату ўдалося пакусаць трох кароў, якіх пасля экспертызы, што выявіла ў крыві жывёл "малекулы шаленства", умярцвілі.

Пацярпелыя работнікі фермы дастаўлены ў бальніцу, дзе ім аказваецца дапамога.

АРМІЯ





БелТА.

У Магілёве на базе асобнага інжынерна-сапёрнага палка прайшоў збор з начальнікамі службаў, камандзірамі інжынерных часцей Узброеных Сіл.

Асабовы састаў інжынерных войск працягвае выконваць складаную і небяспечную работу па знішчэнню выбуханебяспечных рэчаў, што засталіся з часоў вайны. Толькі за мінулы год іх было абясшкоджана і знішчана каля дзевяці тысяч.

НА ЗДЫМКАХ: у лічаныя хвіліны воіны інжынерных войск перакідваюць масты праз водныя перашкоды; размініраванне дарогі для праходжання калоны.



ФЕСТЫВАЛІ

### ПРАГРАМА IX МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ МАСТАЦТВАЎ "СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВІЦЕБСКУ"

**5—10 ЛІПЕНЯ 2000 ГОДА**

ЛЕТНІ АМФІТЭАТР

**5 ліпеня, серада**

21.00 ЦЫРЫМОНІЯ ЎРАЧЫСТАГА АДКРЫЦЦЯ IX МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ МАСТАЦТВАЎ "СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВІЦЕБСКУ"

"СЛАВЯНСКАЯ СЯМ'Я ПЛАНЕТЫ". Гала-канцэрт майстроў мастацтваў славянскіх народаў

**уначы з 5 на 6 ліпеня**

01.00 Алег ГАЗМАНАЎ. "З ВЕКУ Ў ВЕК"

**6 ліпеня, чацвер**

ДЗЕНЬ КУЛЬТУРЫ РАСІІ

21.30 "ЗОРКІ БАЛЕТА РАСІІ". Гала-канцэрт вядучых салістаў балета Расіі і гасцей фестывалю

**уначы з 6 на 7 ліпеня**

01.00 Мікалай БАСКАЎ "ПРЫСВЯЧЭННЕ..."

**7 ліпеня, пятніца**

ДЗЕНЬ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

21.30 "КРЫНІЦЫ БЕЛАРУСІ". Гала-канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі і гасцей фестывалю

**уначы з 7 на 8 ліпеня**

01.00 МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС МАЛАДЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ ЭСТРАДНАЙ ПЕСНІ "ВІЦЕБСК-2000". **(Дзень першы)**

МАЛАДЫЯ ВЫКАНАЎЦЫ ЭСТРАДНАЙ ПЕСНІ І ГОСЦЬ ФЕСТЫВАЛЮ ГРУПА "BONEY M", САЛІСТ Бобі ФАРЭЛ (ГЕРМАНІЯ)

**8 ліпеня, субота**

ДЗЕНЬ КУЛЬТУРЫ УКРАІНЫ

21.30 "ЗАЛАТЫЯ ГАЛАСЫ УКРАІНЫ". Гран-канцэрт майстроў мастацтваў Украіны і гасцей фестывалю

**уначы з 8 на 9 ліпеня**

01.00 ТЭАТР Андрэя ДАНІЛКІ. "ВЕРКА СЯРДЗЮЧКА І ІНШЫЯ"

**9 ліпеня, нядзеля**

21.30 МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС МАЛАДЫХ ВЫКАНАЎЦАЎ ЭСТРАДНАЙ ПЕСНІ "ВІЦЕБСК-2000". **(Дзень другі)**

МАЛАДЫЯ ВЫКАНАЎЦЫ ЭКСТРАДНАЙ ПЕСНІ Ў СУПРАВАДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНЦЭРТНАГА АРКЕСТРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ П/К МІХАІЛА ФІНБЕРГА

**уначы з 9 на 10 ліпеня**

01.00 Мікалай СКОРЫКАЎ. "ПАКУЛЬ Я ПАМЯТАЮ, Я ЖЫВУ". У СУПРАВАДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНЦЭРТНАГА АРКЕСТРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ П/К МІХАІЛА ФІНБЕРГА

**10 ліпеня, панядзелак**

21.00 УРАЧЫСТАЕ ЗАКРЫЦЦЁ IX МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ МАСТАЦТВАЎ "СЛАВЯНСКІ БАЗАР У ВЦЕБСКУ"

"У ПЕСНЯХ ЗАСТАНЕМСЯ МЫ". Гала-канцэрт зорак пеcеннай эстрады і кампазітараў славянскіх краін з удзелам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь п/к Міхаіла Фінберга

**11 ліпеня, аўторак**

02.00 "ТАНЦУЙ ДА РАНКУ"

Папулярныя выканаўцы танцавальнай музыкі





**Закончыў працу над вырабам галоўных прызоў Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" віцебскі мастак Юрый РУДЭНКА, які ўзначальвае аб'яднанне ювеліраў "Лера".**

**НА ЗДЫМКАХ: прызы фестывалю; Юрый РУДЭНКА.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

## Дзмітрый ПАЛЯРУШ: «Я ГРАМАДЗЯНІН СВЕТУ З БЕЛАРУСКІМ ПАШПАРТАМ»

*Мала хто ведае, хаця на Беларусі і праходзяць спаборніцтвы па батуце, што нашы спартсмены неаднаразова станавіліся чэмпіёнамі свету і Еўропы. У Мінску гэты від спорту не культывуецца. Але стаўленне да батута мяняецца з набліжэннем Алімпіяды. У далёкім Сіднэі ў мужчынскіх і жаночых індывідуальных спаборніцтвах выступяць па дванаццаць чалавек. Заваявалі гэта права і два пасланцы Беларусі. Дзмітрый Паляруш і Наталля Карпянкова прэтэндуюць на алімпійскія ўзнагароды. Карэспандэнт "Рэспублікі" Уладзімір АБРАМОВІЧ гутарыць з заслужаным майстрам спорту, пяціразовым чэмпіёнам свету Дзмітрыем ПАЛЯРУШАМ.*

**— Дзмітрый, вы пакідалі спорт. Але вярнуліся. Чаму?**

— У 1996 годзе я стаў чэмпіёнам свету ў індывідуальных спаборніцтвах. У мяне ўжо былі ўсе тытулы — і ў сінхронных стартах, і ў камандных. Далей выступаць не было стымулу, два гады ўдзельнічаў толькі ў шоу. Але калі даведаўся, што батут уключаны ў праграму Алімпійскіх гульняў, вярнуўся. Яшчэ хлапчуком марыў выступаць на Алімпіядзе.

У лютым на адборачных спаборніцтвах у Аўстраліі перамог усіх і заваяваў алімпійскую ліцэнзію. А месяцы два назад адчуў, што ўвайшоў у патрэбную форму.

Без медаля з Алімпіяды вяртацца нельга. Чаго ж тады ехаць? Галоўныя канкурэнты — спартсмены Расіі, Францыі, Аўстраліі, Канады, Англіі...

**— А як прыйшлі ў секцыю батута?**

— Нарадзіўся я ў горадзе Беразнякі Пермскай вобласці. Па нацыянальнасці ўкраінец. Яшчэ ў дзяцінстве палюбіў цырк з-за паветраных акрабатаў. Як яны лёталі пад купалам, як скакалі на сетку!.. І ўгаварыў бацькоў адвесці ў секцыю акрабатыкі. Але паглядзеў і ахнуў: што такое? Мышцы накачваюць — ніякіх палётаў. Па суседству — батуцісты. Зазірнуў — маё! Было тады мне шэсць гадоў. Але ў секцыю не ўзялі. Сказалі: ты, хлопчык, не туды прыйшоў, тоўсценькаму такому — дарога ў барацьбу, гэта паверхам вышэй. Я ў барацьбу не хацеў. Другі раз прыйшоў, трэці... Напэўна, зжаліліся — узялі.

**— А расіяне не скардзяцца, што адпусцілі моцнага спартсмена?**

— У Беларусь прыехаў у 1993 годзе. Пераманілі. Прыехаў сюды ўжо з імем. Быў сярэбраным прызёрам першынстваў свету. Але ж з Расіі спачатку паехаў у Ташкент. Расіяне да гэтай пары не могуць мне гэта дараваць.

У Беларусі моцная каманда. Калі каманда займае высокія месцы на самых буйных спаборніцтвах, значыць, у краіне штосьці робіцца, від спорту развіваецца, працуюць добрыя спецыялісты.

**— Дзмітрый, а зараз часта бываеце ў Беларусі? Бо жывеце ж у ЗША?**

— Разы два на год. Прыязджаю на спаборніцтвы.

Калі "завязаў" са спортам, падаўся ў ЗША. Асеў у штаце Луізіяна. Выступаў у шоу. Там умеюць іх арганізоўваць. Практыкуецца сумеснае выступленне гімнастаў і батуцістаў. Гледачоў нямала збіраецца. Трэнерам працаваў. На жыццё хапае. Свайго дома няма, здымаю, купіў машыну... Умовы для трэніровак нармальныя.

**— А хто трэніруе вас у ЗША?**

— Мой трэнер — Валерый Вягель, ён жа галоўны трэнер зборнай Беларусі, жыве ў Віцебску. Яму тэлефаную, кансультуюся. А трэніруюся самастойна. Ёсць відэакамера, відэакасеты. Ёсць сябра-батуцыст, які дапамагае ў час трэніровак.

**— Вы нарадзіліся ў Расіі, паехалі ва Узбекістан, выступаеце за Беларусь, жывяце ў ЗША, украінец па нацыянальнасці. Грамадзянінам якой краіны сябе лічыце?**

— Грамадзянінам свету, калі так можна сказаць. А наогул, пашпарт у мяне беларускі, значыць, я — грамадзянін Беларусі.

**— Не збіраецеся прыняць грамадзянства ЗША?**

— А навошта? У мяне пакуль віда на жыхарства ў Злучаных Штатах няма.

**— У вольны час чым займаецеся? Магчыма, сустракаецеся са спартсменамі Беларусі, іншых краін былога СССР, якія жывуць зараз у Амерыцы?**

— З гімнасткай Ліліяй Падкапаевай сустракаемся. Багінскую Свету ў мінулым годзе бачыў, але сувязь з ёй не падтрымліваю. А так сустракаюся з батуцістамі. У вольны час катаюся па Амерыцы. Быў ва Фларыдзе, Маямі. Раней калекцыяніраваў манеты. Цяпер узяўся за піўныя куфлі, збіраю талерачкі з выявамі гарадоў. Ужо ёсць дваццаць талерачак з гарадамі ЗША і столькі ж з іншых краін. Жаніцца пакуль не збіраюся, дзяўчыны няма.

**— Разумею, на Алімпіяду едзеце з-за мары. Але, стаўшы прызёрам спаборніцтваў, можна і прэміяльныя зарабіць. Як ацэньваеце іх памеры?**

— А якія яны? Шчыра кажучы, не ведаю.

**— За першае месца — 60 тысяч долараў, за другое — 40, трэцяе — 30...**

— Нармальна. Разумею, мала хто такія грошы за ўсё жыццё заробіць. Але ў кожнага свае запыты. Я чэмпіён свету, нечага дасягнуў, мне хочацца жыць забяспечана. І 60 тысяч долараў для гэтага мала. Лепш няхай пра мяне пасля Алімпіяды часцей успамінаюць. Колькі прыкладаў, калі ў нас вядомыя чэмпіёны жывуць на мяжы беднасці. У ЗША, дарэчы, за перамогі ў Алімпіядах не плацяць. Але потым чэмпіёны могуць нажыць сабе цэлае багацце. Тыя ж выступленні ў шоу, рэклама тавараў і шмат чаго іншага. Дзейнічаюць самі або наймаюць агента. Толькі б галава на плячах была. Хаця, напрыклад, алімпійскі чэмпіён Марк Ліндсі пасля перамогі, гавораць, не зарабіў ні цэнта. Не ведаю, ці сам ён так бяздарна дзейнічаў, ці то яго агент...

**— Можна прывесці ў прыклад і нашага Віталя Шчэрбу...**

— Так, Віталь у Лас-Вегасе адкрыў гімнастычны цэнтр. Выкарыстаўшы сваю славу, знайшоў багатых спонсараў і закруціў справу. Я таксама хачу адкрыць такі ж цэнтр, але батута. Каб у ім маглі рыхтавацца спартсмены розных краін, рабіць свае першыя крокі дзеці... Аднак пакуль у планах толькі Алімпіяда.

МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

## МЫ РАДЫ ГАСЦЯМ

Калі мне ў 1996 годзе прапанавалі ўзначаліць таварыства "Беларусь — Францыя" Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, я не думаў, што набуду столькі аднадумцаў.

Потым жа заўважыў, што Дом гэты ледзьве памятае ўсіх тых, хто бывае тут, бо ў ім адбываецца па некалькі сустрэч штодзень. Менавіта на мерапрыемствах, прысвечаных стасункам розных народаў, можна набыць сяброў з іншых краін. Сустрэчы гэтыя тычацца культурных сувязяў, гуманітарнай дапамогі пацярпелым ад чарнобыльскай аварыі, гісторыі нацыянальных меншасцей, якія жывуць на Беларусі. Натуральна, што таварыства "Беларусь — Францыя" ладзіць сваю дзейнасць на хвалі пашырэння ўзаемадносін паміж грамадзянамі Францыі і Беларусі. Толькі ў апошні час быў прадуманы план паездкі ў горад Невер народнага хора "Кантус" і чарговай сустрэчы на Беларусі прадстаўнікоў арганізацыі "Аліса", абмеркавана прапанова Ліёнскага аддзялення таварыства "Францыя — Беларусь" прыняць сям'ю Фослен, якая ўдачарыла маленькую Алесю...

У чэрвені ў Доме дружбы адбылася прэзентацыя кнігі "Ад Мінска да Ла-Манша", якую напісала Галіна Давыдава, былы непаўналетні вязень канцэнтрацыйных лагераў. Я не мог не пабываць на такім мерапрыемстве таму, што і сам перажыў цяжкія дні нямецкай акупацыі, жах Баранавіцкага гета, дзе загінула каля 3 000 вязняў.

Не так даўно прайшла выстава дзіцячых малюнкаў "Францыя вачыма беларускіх дзяцей". Дзіўна і прыемна было бачыць французскія сюжэты, намаляваныя юнымі творцамі, якія ніколі не былі ў гэтай краіне, але мараць аб гэтым.

Шматгранную плённую дзейнасць Беларускага таварыства дружбы, як я сам пераканаўся, адзначаюць многія. Афіцыйным прызнаннем яе стала ўзнагароджанне таварыства Ганаровай граматай беларускага парламента за вялікі ўклад у развіццё міжнародных культурных сувязей, пашырэнне дасягненняў нацыянальнай культуры і мастацтва, распрацоўку і рэалізацыю гуманітарных праграм.

**Сяргей ГАЛАЎКО,**
**прафесар, старшыня таварыства "Беларусь — Францыя".**

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ



Супрацоўніца Браслаўскага краязнаўчага музея Элеанора Зінкевіч — нязменны кіраўнік гуртка саломапляцення клуба майстроў "Ля возера", што працуе пры Браслаўскім музеі.

НА ЗДЫМКУ: Элеанора ЗІНКЕВІЧ.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## АРТ-ЦЭНТР



Заснавальнікам Віцебскага народнага мастацкага вучылішча быў Марк Шагал. Лепшыя мастакі XX стагоддзя К. Малевіч, Л. Лісіцкі, В. Ермалаева і іншыя стварылі тут творчае аб'яднанне УНОВІС, з якога і пачаўся асобы перыяд у мастацкім жыцці Віцебска, названы пазней "Віцебскім рэнесансам".

Пасля змены шматлікіх шыльд гарадскія ўлады прынялі рашэнне перадаць будынак былога мастацкага вучылішча цэнтру сучаснага мастацтва, дзе цяперашнія майстры пэндзля будуць прадаўжаць традыцыі сваіх папярэднікаў. На будынку арт-цэнтра адкрыта мемарыяльная дошка.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# З ЮБІЛЕЕМ, «БАЦЬКАЎШЧЫНА»!

Шпарка ляціць час. Здаецца, зусім нядаўна ўсё гэта было, а сёлета нашай любай "Бацькаўшчыне" спаўняецца 10 гадоў! Думаецца, што нямала зроблена ёю за час існавання. І таму, прачытаўшы ў "Голасе Радзімы" зварот да кіраўнікоў беларускіх суполак у замежжы з просьбаю адказаць на пытанні анкеты, я з задавальненнем вырашыў узяць удзел у гэтай акцыі. А пачну з лірычнага ўступу, працытаваўшы верш "Бацькаўшчына" майго любімага паэта Сяргея Законнікава. Спадзяюся, што ён сугучны чытачам "Голасу Радзімы" не толькі ў замежжы, але і на Бацькаўшчыне, у Беларусі.

*Мой любы край,*
*не наракай,*
*Што славіць зноў бяруся...*
*Калі і ёсць на свеце рай,*
*Дык ён —*
*на Беларусі!*
*Прайдзі па ёй*
*і ўсё збяры,*
*Пачуй душой адкрытай...*
*Тут голас вечнасці*
*бары*
*Нясуць зямлі з блакіту.*
*Тут чорныя вайны сляды*
*Рукой рабочай*
*сцерты,*
*Каб маладыя гарады*
*Стаялі вольна,*
*цвёрда.*
*Тут загучаў на новы лад*
*Паэта заклік вешчы —*
*Гушкае космас арлянят,*
*Купалы чуе вершы...*
*Відаць,*
*няма бальчэй пакут,*
*Чым шкадаваць да скону,*
*Што не вярнуцца ў матчын кут,*
*Хоць позна,*
*ды з паклонам.*
*І я павандраваць люблю,*
*Каб потым*
*днём спаткання*
*Абняць наўсцяж*
*сваю зямлю,*
*Як крыламі, рукамі.*
*Жабрацкі лёс*
*мяне міне...*
*Задыханы ад шляху,*
*Засну я*
*ў роднай баразне*
*Непераможным птахам...*

Так, мы, беларусы, як тыя птушкі, разляцеліся па розных краінах далёкага і блізкага замежжа. І менавіта "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" клапоціцца пра сваіх "птушак", склікаючы нас з "выраю" на гістарычную Радзіму на з'езды, кангрэсы, вандроўкі ды іншыя імпрэзы, якія не даюць забывацца нам, хто мы і адкуль пайшлі "па беламу свету". Нізкі паклон ёй і шчырая наша ўдзячнасць ды падзяка!.. А зараз перайду да непасрэдных адказаў на пытанні анкеты.

Што значыць узнікненне і дзейнасць "Бацькаўшчыны" для беларусаў свету і для мяне асабіста? Па-першае, менавіта "Бацькаўшчына" нас аб'яднала як народ, раскіданы па свеце. Гэта дзякуючы ёй я сёння маю сяброў-беларусаў у розных кутках зямлі: у Бельгіі і Францыі, ЗША і Канадзе, Аўстраліі і Вялікабрытаніі, Польшчы і Эстоніі, Латвіі і Расіі, Літве і Казахстане... Мы — адна Б Е Л А Р У С К А Я  С Я М ' Я, "дзеці" якой жывуць у розных кутках планеты Зямля, і "ЗБС" Бацькаўшчына" клапоціцца, каб мы не растварыліся сярод іншамоўных суграмадзян у краінах пражывання. Дзякуючы "Бацькаўшчыне", якая ў ліпені 1993 года правяла Першы з'езд беларусаў свету, у Беларусь змаглі прыехаць тыя, хто не быў на роднай зямлі амаль паўстагоддзя, і трэба было бачыць іх шчаслівыя слёзы пры спатканні з Радзімай, бо якім бы даброи ні было жыццё ў тлустай Амерыцы ці Канадзе, а беларусу і там сняцца Палессе ці Нарач, Нёман ці Дняпро!.. Спатканне з беларускімі краявідамі загаіла "раны сэрца" не аднаму ўдзельніку Першага з'езда беларусаў свету, і пра гэта яны ніколі не забываюцца. Нам, беларусам блізкага замежжа, крыху лягчэй патрапіць на Радзіму, асабліва тым з нас, хто жыве ў памежных з Беларуссю краінах. Але і мы з вялікім энтузіязмам бралі ўдзел у стварэнні ЗБС, рабоце яго абодвух з'ездаў. "Бацькаўшчына" не раз і не два дапамагала мне ў крытычныя моманты жыцця і маральна, і матэрыяльна. І не толькі мне... Ніякая з іншых арганізацый у Беларусі так многа і так карысна не папрацавала на беларускую дыяспару, як "Бацькаўшчына"! "ЗБС "Бацькаўшчына" не дзеліць нас, беларусаў, на "сваіх" і "чужых": для яе мы ўсе р о ў н ы я!!! І гэта для нас вельмі многа значыць у маральным плане. Адразу скажу, што я не раблю ніякага "намёку" ў адрас арганізацый, якія атрымліваюць сродкі для работы з дыяспарай ад дзяржавы. "ЗБС "Бацькаўшчына" — грамадская арганізацыя, і дзяржава не дае на правядзенне яе мерапрыемстваў ні воднае капейчыны!.. Так што я амаль адказаў і на трэцяе пытанне анкеты: няўдалых акцый ды мерапрыемстваў, праведзеных "Бацькаўшчынай", я не ведаю. А ўдзельнічаў я і ў рабоце абодвух з'ездаў, у кангрэсах, іншых мерапрыемствах.

Безумоўна, самым яркім, самым запамінальным для мяне застаўся Першы з'езд беларусаў свету — гэта было сапраўды Б Е Л А Р У С К А Е свята для беларусаў усяго свету, і праходзіў ён у часы беларускага Адраджэння: думаю, што гэтым усё і сказана!.. Другі з'езд праходзіў у іншых варунках і пакінуў шмат горычы, але не па віне "Бацькаўшчыны". На ім з'явілася шмат прыстасаванцаў, якія не стваралі "Бацькаўшчыну", не ўдзельнічалі ў Першым з'ездзе. Мэта ў іх была адна: раскалоць маналітнасць беларусаў, падзяліць іх на лаяльных і нелаяльных да існуючага рэжыму на Беларусі. Гэтыя гора-беларусы не разумеюць, што рэжымы мяняюцца, а Бацькаўшчына ў нас застаецца адна!

Па пятаму пытанню анкеты, як, дарэчы, і па шостаму, літаральна некалькі пажаданняў. "ЗБС "Бацькаўшчына" павінна больш актыўна, усімі даступнымі метадамі змагацца за захаванне Б Е Л А Р У Ш Ч Ы Н Ы ў Беларусі! Сёння аблічча беларускіх гарадоў як дзве кроплі вады падобнае да расейскіх: амаль уся наглядная "агітацыя" спрэс па-руску. Што ж гэта за Беларусь?! А назвы вуліц, калгасаў, саўгасаў?! Усё як і 40, і 50 гадоў таму назад, хаця няма ўжо СССР і БССР і ніколі ўжо не будзе. Няўжо ў беларусаў няма выдатных гістарычных асобаў, каб менавіта іх імёны насілі вуліцы, плошчы?

Дзейнасць "Бацькаўшчыны" на пачатку XXI стагоддзя павінна быць скіравана на захаванне БЕЛАРУШЧЫНЫ як у Беларусі, так і ў свеце! Думаю, што больш падрабязна пра перспектывы дзейнасці "Бацькаўшчыны" мы будзем гаварыць на мерапрыемствах, якія запланаваны "Бацькаўшчынай". Спадзяюся, што мяне, як сябра Рады "ЗБС "Бацькаўшчына", запросяць прыняць у іх удзел.

**Пятрусь КАПЧЫК, філолаг, кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера", сябра Рады "ЗБС "Бацькаўшчына".**

Украіна. Ізяслаў.

## БЕЛАРУСІКА

# АД КАНГРЭСА ДА КАНГРЭСА

## ЗДАБЫТКІ І ПРАБЛЕМЫ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

Найбольш значныя дасягненні асацыяцыі звязаны з выдавецкай дзейнасцю. У выкананне рашэнняў II Міжнароднага кангрэса беларусістаў у 1995 годзе (з нулявога нумара) пачалося выданне інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага штомесячнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі". Нядаўна пабачыў свет яго 50-ты нумар. Наладжана выданне англамоўнай версіі (рэдактар Сяргей Гваздзёў). У бюлетэня ўжо склаўся пэўны аўтарскі актыў. Рассылаецца ён беларусістам у 17 краін свету, у рэдакцыі іншых перыядычных выданняў (для абмену). Выданне атрымала станоўчыя водгукі ў беларускім і зарубежным друку. Так, Тадэвуш Лямбовіч пісаў у польскіх "Nowych Kontrastach" (2000. № 3), што "Кантакты і дыялогі" паказваюць на сваіх старонках важныя з'явы, справы і людзей, якія тварылі і твораць супольна беларускую культурную традыцыю і тоеснасць, рэдакцыя ж такім чынам адкрывае сваёй дзейнасцю акно ў свет, а свет — на Беларусь". Былі, вядома, і крытычныя заўвагі. Бюлетэнь рэдагуецца на грамадскіх асновах. Друкуецца ж пераважна на сціплыя сяброўскія складкі — тут трэба адзначыць істотную дапамогу Монікі Банькоўскі-Цюліг (Швейцарыя), Германа Бідэра (Аўстрыя), Джыма Дынглі (Вялікабрытанія), Раісы Жук-Грышкевіч (Канада), Янкі Запрудніка (ЗША), Вітаўта Кіпеля (ЗША), Анджэя Цеханавецкага (Вялікабрытанія), Яна Чыквіна (Польшча), Беларускага харытатыўнага фонду, "Fond for Central and East European Book Projects".

Аднак сітуацыя з друкаваннем бюлетэня ў апошні час склалася крытычная. Беларускае таварыства дружбы, якое з'яўляецца яго сузаснавальнікам, цяпер не ў стане дапамагчы ў фінансаванні штомесячніка. Відаць, рассылаць яго трэба толькі тым беларусістам, якія або ўзначальваюць нацыянальныя асацыяцыі, або ўносяць сяброўскія складкі, або прысылаюць матэрыялы і выданні ўзамен.

Прыемна адзначыць, што ў апошні час у "Кантактаў і дыялогаў" з'явіліся паслядоўнікі. Свае бюлетэні сталі выдаваць англійскія, нямецкія, французскія беларусісты. Высокім узроўнем вылучаюцца французскія "Perspectives bié lorussiennes" ("Беларускія перспектывы"), якія рэдагуюцца стараннем Марыі Гужон, Бруна Дрвескага, Вірджыніі Шыманец.

У апошнія гады часцей сталі выходзіць зборнікі "Беларусіка = Albaruthenica". У шостым яго выпуску нам удалося выдаць (у дзвюх кнігах) матэрыялы II Міжнароднага кангрэса беларусістаў "Беларусь паміж Усходам і Захадам: Праблемы міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу" (1997). Сёмы выпуск увабраў у сябе матэрыялы "круглага стала" "Беларуска-нямецкае грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: гісторыя, сучаснасць, перспектывы" (1996). Прыгадаем, што восьмы выпуск мае назву "Беларусь — Расія — Японія: Матэрыялы Першых Астравецкіх краязнаўчых чытанняў, прысвечаных памяці Іосіфа Гашкевіча" (1997), дзевяты — "480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў" (1998), дзесяты — "Ян Чачот, Ігнат Дамейка — сябры і паплечнікі Адама Міцкевіча: Матэрыялы Трэціх і Чацвёртых Карэліцкіх чытанняў" (1998), адзінаццаты — "Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі" (1998), дванаццаты — "Пушкін — беларуская культура — сучаснасць: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі" (1999). Трынаццаты выпуск знаходзіцца ў падрыхтоўцы, будзе прысвечаны грамадскім ідэалам Беларусі. Чатырнаццаты мае назву "Беларусь — Ірландыя" (2000). У пятнаццатым аб'ядноўваюцца матэрыялы трох навуковых канферэнцый і чытанняў: беларуска-польскай "Шлях да ўзаемнасці", нясвіжскай канферэнцыі, прысвечанай 450-годдзю з дня нараджэння М.-К. Радзівіла Сіроткі, і праведзеных у Ветрыне Полацкага раёна чытанняў, прысвечаных Б. Эпімаху-Шыпіле. Выйшлі таксама зборнікі "Міцкевіч і Беларусь", "А. С. Пушкін і Беларусь", два зборнікі з серыі "Вяртанне". У той жа час астаюцца нявыдадзенымі даклады і паведамленні Міжнароднай канферэнцыі, праведзенай МАБ у Оршы, на радзіме У. Караткевіча, і прысвечанай яго спадчыне ў славянскім кантэксце, а таксама зборнік "Гётэ і Беларусь".

Сярод публікацый зарубежных беларусістаў трэба вылучыць манаграфіі Астрыд Зам (Германія), Яна Запрудніка (ЗША), Мікалая Ількевіча, Аляксея Каўкі (Расія), Вітаўта Кіпеля (ЗША), Юрыя Лабынцава (Расія), Арнольда Макміліна (Вялікабрытанія), Яўгена Мірановіча (Польшча), Рыгора Піўтарака (Украіна), Яна Чыквіна (Польшча), Яўгена Шыраева (Расія), грунтоўныя публікацыі Ілгі Апіне (Латвія), Германа Бідэра (Аўстрыя), Карла Гутшміта (Германія), Андрэя Котлярчука, Васіля Пуцко (Расія), Рышарда Радзіка, Міхала Саевіча, Сакрата Яновіча (Польшча). Вялікую пошукавую і навукова-арганізацыйную работу вядуць Моніка Банькоўскі-Цюліг (Швейцарыя), Аляксандр Баршчэўскі (Польшча), Курт Вулхайзер (ЗША), Алена Глагоўская (Польшча), Валянцін Грыцкевіч (Расія), Джым Дынглі (Вялікабрытанія), Андраш Золтан (Венгрыя), Альма Лапінскене (Літва), Мікалай Нікалаеў (Расія), Эльжбета Смулкова (Польшча), Францішка Сокалава (Чэхія) і інш. Санкт-Пецярбургскія беларусісты рэгулярна праводзяць чытанні, прысвечаныя беларускай культуры ў іх горадзе, і выдаюць іх матэрыялы.

Усяго за мінулыя пяць гадоў беларусістамі арганізавана звыш 20 навуковых канферэнцый, сімпозіумаў, семінараў, "круглых сталоў". Прайшло каля 30 вечароў, прысвечаных паасобным краінам або дзеячам зарубежнай культуры, якія ўваходзяць у нашу асацыяцыю. Як правіла, яны суправаджаліся кніжнымі выстаўкамі. Тут трэба вылучыць "Дні беларускай культуры", праведзеныя венгерскімі беларусістамі.

Камітэт асацыяцыі, на жаль, збіраўся нерэгулярна. Перашкаджала адсутнасць сродкаў. Пасяджэнні звычайна прымяркоўваліся да навуковых канферэнцый. Пры пільнай патрэбе апытанне сяброў Камітэта праводзілася праз электронную пошту. Часцей збіраліся пасяджэнні Бюро камітэта. Вялася ажыўленая перапіска. Сёння ў архіве асацыяцыі — звыш двух тысяч лістоў, папкі з рукапісамі асобных сяброў.

У апошні час у рабоце Камітэта МАБ і яго Бюро пачала назірацца пэўная інертнасць, пасаванне перад абставінамі. У некаторых краінах (Германія, ЗША, Польшча) традыцыйную беларусістыку пачала выцясняць беларусалогія (накшталт былой саветалогіі) — больш маладая і больш палітызаваная. Мы не павінны яе ігнараваць, але і не можам у ёй растварыцца. У прынцыпе ж нам патрэбна рашучае абнаўленне сіл — як у самім Камітэце, так і ў нацыянальных і рэгіянальных асацыяцыях, суполках на тэрыторыі Беларусі. Падрасла кваліфікаваная, разумная, хоць часам і занадта прагматычная або палітызаваная моладзь. Але ж за ёю — будучыня.

**Бюро камітэта ГА "МАБ".**

**Заканчэнне. Пачатак у № 26.**



СУСТРЭЧЫ З Карласам ШЭРМАНАМ

# БЕЛАРУС З ПЛЕМЕНІ ЧАРУА



*На пачатку 60-х Карлас Шэрман з бацькамі прыехаў на Беларусь. Для бацькі гэта была радзіма, для яго — новая краіна з невядомай мовай і культурай. Карлас размаўляў па-іспанску. І адносіны з мінчанамі тады будаваліся больш пры дапамозе жэстаў. Праз месяц напружанай працы ён пачаў гаварыць на мове краіны, дзе збіраўся застацца назусім. А знаёмства з беларускімі літаратарамі нарадзіла шматлікія пераклады на іспанскую мову і наадварот. Творы Лоркі, Неруды, Маркеса, Гільена з'явіліся па-беларуску, а земляткі Шэрмана ў Аргенціне па-іспанску сталі чытаць вершы Купалы, Куляшова, Барадуліна...*

*Для лінгвіста-раманіста Карласа Шэрмана ні тады, ні цяпер не ўзнікла пытанне — чаму ён вывучаў мову краіны, у якой жыве...*

### РАБОТА НАД ПАМЫЛКАМІ

**— Чаму чалавек з вашай біяграфіяй адстойвае прынцыпы суверэнітэту і незалежнасці Беларусі?**

— Для мяне адказ просты. Чалавек прапаведуе незалежнасць, калі ён сумленна адносіцца да гэтай краіны і разумее яе, не звяртаючы ўвагі на пэўныя палітычныя акалічнасці. Калісьці ў Гарсія Лоркі пыталіся, да якой партыі ён належыць. І той адказаў: "Я прыхільнік жыцця, аднак дапамагаць буду слабым..."

**— Найбольш блізкае вам, як лінгвісту, пытанне — мова. Як адбіваецца на грамадстве наяўнасць двух дзяржаўных моў — беларускай і рускай?**

— Гэта, я лічу, непаразуменне, і ў канчатковым выніку не паважаецца ні адна, ні другая. Менавіта таму сёння мы маем "трасянку".

Праблема вялікая. Па лініі Пэн-клуба 50 краін распрацоўвалі Дэкларацыю лінгвістычных правоў. Гэта важны дакумент, прызнаны ЮНЕСКА. Спадар Федэрыка Маёр стварыў у Парыжы дэпартамент лінгвістыкі, атрымаўшы гэту дэкларацыю, таму што ў ёй ідзе размова пра гарманізацыю, пра роўнае стаўленне да ўсіх моў на свеце. Аднак моўныя групы ў краіне не павінны зневажаць асноўную мову...

Я не ведаю такіх людзей, якія б ездзілі ў Сарбону вучыцца, не ведаючы французскай, або афрыканцаў ці азіятаў, якія жывуць, напрыклад, у Лондане і не навучыліся гаварыць па-ангельску. Я не магу прызнаць, што існуюць мовы вялікія або малыя, як няма вялікіх і малых нацый...

**— Вы, бадай, пацвердзілі, што сёння беларуская мова пераведзена ў разрад другаснай, а некаторыя нашы сучасныя негатыўна ставяцца да яе ўжывання...**

— Гэта так. Дзяржаўная палітыка павінна ўшаноўваць перш за ўсё родную мову. Аднак улада мае пэўны комплекс, яна не хоча размаўляць па-беларуску. Адсюль і некаторыя грамадзяне лічаць, што гэта "вясковая" мова, куды іх дзіця пойдзе з ёю, што яно будзе рабіць, калі ў школе або на працы ўсе размаўляюць па-руску... Гэта ненармальная сітуацыя. Яна павінна быць перагледжана на дзяржаўным узроўні.

Не так даўно ў Францыі прынялі закон аб ахове французскай мовы, таму што за апошні час да яе прыстала шмат амерыканізмаў... У нас пра такое гаварыць не даводзіцца.

**— Беларусы, якія жывуць за мяжой, ці з'яўляюцца яны сёння своеасаблівымі носьбітамі мовы?**

— Сапраўды, дзе-небудзь у Канадзе захавалася беларуская мова, калі можна так сказаць, першародная чысціні. І людзі, якія там жывуць, шануюць і песцяць яе. Беларусы за мяжой з'яўляюцца своеасаблівымі вартаўнікамі аднаго з асноўных атрыбутаў нацыі...

**— Ці мае рацыю думка, што "залатыя" век беларусаў прыпаў на XV—XVII стагоддзі Вялікага княства Літоўскага?**

— Калі знікае мова, я лічу: народ толькі існуе, ён не жыве паўнавартасным жыццём, расплываецца свядомасць. Але я ўпэўнены: "залатыя" век Беларусі наперадзе: гадоў праз 15—20 мае ўнукі змогуць ганарыцца і мовай, і краінай. Гэта прыйдзе, яно нікуды не дзенецца, я ў гэта веру.

Успомнім гісторыю: перыяд царызму — дзвесце гадоў забароны для мовы і культуры, аднак нічога не выйшла. Беларусы памяркоўныя, але не дурныя. Гэта мова мае ўласцівасць: яна застаецца як фактар латэнтны. Яна існуе недзе пад скурай чалавека, пранікае ў яго з малаком маці і застаецца ў клетках, якія называюцца душой. І Бог не дае прапасці гэтаму...

Я, напрыклад, паэзію пішу па-іспанску, бо гэтага прагне душа. Я ведаю, што некаторыя маладыя беларускія пісьменнікі пачыналі па-руску, аднак пазней усё роўна прыходзілі да роднай мовы: не нараджаюцца вобразы, калі гэта штосьці чужое. Гэта ўсё роўна, як вучыць латынь і на ёй пісаць — з'явіцца штучная нежыццяздольная канструкцыя...

Таму я зноў паўтаруся: "залаты" век Беларусі наперадзе, і я не звязваю гэта толькі з палітыкай, хаця яна таксама важная. Людзі прыйдуць самі да сябе, да сваіх вытокаў, таму што народная крыніца невычэрпальная...

**Вітаўт ЛУКАШЭВІЧ.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ФОРМУЛА ЖЫЦЦЯ,
## альбо ЯК БЕЛАРУСЫ «ПОЛАЦАКА» РАТАВАЛІ РОМКУ

Кажуць, кожны чалавек — стваральнік свайго лёсу. У нейкай ступені гэта так. Хаця мой універсітэцкі выкладчык Лапідус, што чытаў курс старажытнагрэчаскай міфалогіі, казаў нам, студэнтам: "Ад лёсу ў лесе не схаваешся". Але чалавечая мудрасць нярэдка вельмі супярэчлівая.

Вера Дзільдзіна, напэўна, ніколі не даведалася б, што такое Амерыка, каб не страшэнная хвароба сына. Жонка беларускага вайскоўца нават і падумаць не магла, што чарнобыльская трагедыя станецца яе асабістай трагедыяй, трагедыяй сына і ўсёй сям'і. Дыягназ гомельскіх дактароў быў адназначны і суровы, як смяротны прысуд: лейкемія. Параілі паспрабаваць лячыць хлопчыка за мяжой.

Так Вера Дзільдзіна з немаўляткам на руках апынулася далёка ад родных мясцін — аж за акіянам, дзе яе са спагадай прынялі амерыканскія беларусы.

...Першы раз я сустрэла Веру ў 1991 годзе, калі па журналісцкіх справах завітала да суайчыннікаў у "Полацак". Ромка, так завуць Верынага сына, тады яшчэ не хадзіў і таму ўвесь час быў на руках то ў маці, то ў гасцей, што часта наведвалі гасцінны дом Сяргея Карніловіча і Кастуся Калошы, дзе часова пасяліліся маладая жанчына з хворым дзіцем.

Сэрца маё проста рвалася на часткі ад жалю, калі я глядзела на хлопчыка, якому на самым пачатку жыцця давялося ўжо зведаць столькі фізічных пакут. Але яго сінія вочкі без боязі, даверліва глядзелі на людзей, ён ахвотна ішоў да іх на рукі, але не смяяўся і нават не ўсміхаўся, калі нехта хацеў развесяліць малога.

Калі мы засталія адны, Вера падняла кашульку на Ромцы і паказала сляды медыцынскіх маніпуляцый на яго кволым цельцы.

— Хіміятэрапія, — галасам без усялякіх інтанацый сказала жанчына, — кожны тыдзень возім Ромку ў клініку на працэдуры.

Я не знайшла тады ў сабе сіл распытваць Веру больш падрабязна, бо адчувала, што яна знаходзіцца ў стане рыбы, выкінутай з вады на гарачы пясок: усё было так нязвыкла і так ненадзейна... Яна проста не разумела, як жыць далей, што рабіць. У Беларусі заставаліся дачка і муж.

Калі праз дзевяць гадоў я зноў апынулася ў амерыканскім "Полацаку", то, зразумела, адразу падумала пра Веру з Ромкам. Што з імі?

— Яны тут, — сказалі мне. — Можна будзе сустрэцца.

У адзін з выхадных дзён Вера Дзільдзіна прывяла ў царкву, дзе звычайна збіраюцца тутэйшыя беларусы, свайго Ромку. Хлопчык ніяк не мог зразумець, чаго ад яго хоча незнаёмая жанчына. Мая англійская мова была зусім "літл", а Ромка зусім не гаварыў па-беларуску. Але так-сяк мы паразумеліся.

Як сказала Вера, яна стараецца не гаварыць сыну аб праблемах яго здароўя і не акцэнтаваць на гэтым увагу. Мацярынскі інстынкт падказвае ёй, што будзе лепей, калі Ромка вырасце без комплексаў. Хлопчык добра вучыцца ў школе, захапляецца геаграфіяй, рознымі спартыўнымі гульнямі, як усе амерыканскія дзеці, мае ўласны кашалёк з грашыма.

Дактары кажуць, што за здароўе хлопчыка не трэба хвалявацца, хвароба адступіла. Але, тым не менш, штомесяц Раман мусіць быць на праверцы ў Клівлендскай клініцы. Робіцца абследаванні, пэўныя працэдуры. На бліжэйшы час запланавана праверка сэрца.

Як жа ўдалося выратаваць Ромку, колькі намаганняў дзеля гэтага прыклала яго маці, дактары і тыя простыя беларусы, што ўзялі на сябе яго апеку?

— Любая жанчына, калі трэба ратаваць сваё дзіця, пойдзе на ўсё, — без пафасу і ўсялякіх прыкмет гераічнасці расказвае гісторыю свайго, трэба думаць, вельмі няпростага, дзесяцігадовага жыцця ў Амерыцы Вера Дзільдзіна. — Мяне добра прынялі ў беларускай калоніі, жыла спачатку ў Сяргея Карніловіча і Кастуся Калошы, потым у Евы Ераховіч. Гэтыя людзі ўсім сэрцам палюбілі майго сынка, дапамагалі яго гадаваць. Сяргей Карніловіч часта гуляў з Ромкам (хлопчык, дарэчы, гэта і цяпер памятае), а для Евы ён быў адным з унукаў. Клівлендская клініка ўзяла на сябе ўсе расходы па лячэнню хлопчыка з Беларусі ў першыя тры гады. А пасля я павінна была рабіць гэта самастойна.

Беларуская царква таксама падтрымлівала і падтрымлівае яшчэ цяпер нас матэрыяльна. Але ў Амерыцы, каб жыць і спаць спакойна, трэба мець працу. Ужо праз тры-чатыры месяцы я атрымала афіцыйны дазвол на працу. Не ведаючы мовы, магла спачатку толькі мыць туалеты ды посуд у мексіканскім рэстаране. З васьмі раніцы да трох — адна работа, а з пяці да дзесяці — другая. Бывала, што і ў трох месцах працавала.

Памятаю Веру ранейшую: разгубленую, непрыстасаваную да новага жыцця... Сёння яна зусім іншая. Упэўненая ў сабе і сваёй будучыні жанчына, якая нікому не паказвае сваю слабасць, свой боль. Бо за гэтыя дзесяць гадоў пабачыць давялося ўсякага... Навучылася ўсміхацца ў любы, нават цяжкі момант, як гэта робяць усе амерыканцы. Перабралася да маці яе старэйшая дачка і цяпер тут вучыцца. Наладжваецца і асабістае жыццё.



*Вера ДЗІЛЬДЗІНА, Ромка і аўтар матэрыялу (злева направа).*

Ні адной скаргі, ні аднаго наракання на свой лёс не пачула я ад Веры. "Расслабляцца яшчэ не час", — сказала яна.

Людзі гавораць, што Вера Дзільдзіна любіць жыццё, хутчую язду (вадзіць машыну як вучылі старыя беларускія іміграны). Яны, дарэчы, нават пабойваюцца цяпер з Верай ездзіць.

— А чаму Раман зусім не размаўляе па-беларуску, калі ён быў у першыя гады жыцця ў беларускім асяродку? — пацікавілася я ў Веры.

— Я і сама як след не ведаю беларускай мовы, так сталася ў маім жыцці. А па-другое, ужо з двух з паловай гадкоў Ромка хадзіў у дзіцячы садзік. З шасці раніцы да шасці вечара хлопчык знаходзіўся ў амерыканскім моўным асяроддзі. Пазней — школа.

Па праўдзе сказаць, пасля гэтых слоў мне стала вельмі шкада Ромку, і я зразумела, чаму ў яго такія сумныя вочы. Ніякія цудоўныя цацкі і цукеркі не маглі замяніць маці, з якой ён мог бываць разам у рэдкія як выхадныя дні.

Па словах Веры Дзільдзінай, у Ромкі былі цудоўныя дактары. Спачатку ім займаўся доктар Норус, а цяпер — доктар Левін, які таксама прымае самы актыўны ўдзел у лёсе Рамана Дзільдзіна. Адна з прычын гэтай чалавечай прыязнасці — тое, што бацькі доктара Левіна родам з Беларусі. А тут, у Амерыцы, пачуццё агульнай Бацькаўшчыны для многіх — святое. Яно абавязвае дапамагаць суайчыннікам.

Цяжка сказаць, як бы склаўся лёс Веры Дзільдзінай і яе сына на Беларусі. На жаль, як мы ведаем, многіх юных пацыентаў з падобнымі дыягназамі дактары ў Беларусі выратаваць не змаглі. А Ромка, як вы разумееце, жывы і здаровы. Калі падрасце, магчыма, захоча пабываць у Беларусі. Формула жыцця, напісаная ў Амерыцы, дае беларускаму хлопчыку перспектыву і веру ў будучыню.

**Тацццяна АНТОНАВА-МЕЛЬЯНОВІЧ.**

ГАСЦЁЎНЯ: ЗНАЁМСТВА З ВІЦЕБСКІМ ТЭАТРАМ «ЛЯЛЬКА»

● Алена СПАСЮК.

# ЛЮДЗІ, якія гуляюць у ЛЯЛЬКІ, і ЛЯЛЬКІ, якія гуляюць у ЛЮДЗЕЙ



Тэатр "Лялька", які летась атрымаў званне заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь, з'явіўся ў Віцебску ў 1986 годзе. Яго арганізаваў Віктар Клімчук (дарэчы, у 1996 годзе прызнаны "Чалавекам года" за ўклад у тэатральнае мастацтва). Ён марыў стварыць добры тэатр для дзяцей і дарослых, узровень якога быў бы варты культурных традыцый старажытнага Віцебска. І гэта яму ўдалося.

У тэатры працуюць цудоўныя акцёры, лепшыя ў СНД, па словах Віктара Клімчука, тэатральныя мастакі — Ганна і Алесь Сідаравы. Рэпертуар (паставілі 26 спектакляў) можа задаволіць і самых маленькіх гледачоў ("Бука", "Дзед і жораў", "Церам-церамок", "Папялушка"), і старэйшую дзятву ("Касмічная казка", "Хлопчык-Зорка"). Для дарослых тут іграюць "Загубленую душу, альбо Пакаранне грэшніка". Тэатру Віктара Клімчука пашчасціла быць любімым гледачамі і прызнаным крытыкай. Каб набыць білет на адзін з самых яркіх спектакляў — "Брэменскія музыкі", людзі запісваліся загадзя. А сёлета ў маі іскрамётнае відовішча віцебскай трупы пакарыла і сталічнага гледача. Таксама вельмі высока ацанілі спектакль "Загубленая душа..." ў Югаславіі на леташнім фестывалі спектакляў для дзяцей. Віцябляне атрымалі Гран-пры, прызы за лепшую рэжысуру, музыку да пастаноўкі. Увогуле большасць спектакляў "Лялькі" высока адзначаны крытыкамі. А яшчэ нярэдка віцебскі тэатр "Лялькі" называюць сонечным, бо ён дорыць гледачу надзею.

Прапануем сустрэчу з мастацкім кіраўніком тэатра "Лялька", заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Віктарам КЛІМЧУКОМ:

**— Ваш тэатр, нягледзячы на юны ўзрост, ужо набыў заслужаную папулярнасць і павагу. Як асабіста вы ацэньваеце стан творчых спраў калектыву?**

— Думаю, зараз "Лялька" на тым вітку развіцця, калі артысты ў выніку вялікай працы набываюць вопыт, майстэрства, і атрымліваюцца добрыя спектаклі. Наша трупа (12 акцёраў) даволі стабільная. Многія з "Лялькай" з дня яе заснавання. Мы ўсе расцём разам. Хаця, безумоўна, трупа пастаянна папаўняецца, бо лялечны тэатр — тэатр маладых.

**— Ці не здаецца вам, што ўвогуле да лялечнага тэатра ў нас нейкае несур'ёзнае стаўленне, часам нават паблажлівае: маўляў, забава для дзяцей, далёкая ад сапраўднага мастацтва?**

— На маю думку, самае высокае мастацтва — музыка, на другім жа месцы — тэатр лялек, бо нідзе больш няма такога багацця выразных сродкаў, як у нас. У драмтэатры існуе абсалютная велічыня — акцёр, вакол якога ўсё і круціцца. Дэкарацыі, музыка — гэта ўжо другаснае. У лялечным тэатры вельмі важна ўзаемадзеянне — спалучэнне жывога, нежывога, дэкарацый і музыкі. І тут абавязкова трэба знаходзіць звязваючае звяно. А ўсё гэта разам дорыць унікальную магчымасць мадэліраваць прастору па ўласным жаданні, рэалізоўваць самыя багатыя творчыя фантазіі: напрыклад, зрабіць ляльку ў два чалавечыя росты, а можна і зусім маленькую. Акцёры выходзіць на сцэну ў масках і без іх. А ўрэшце, у лялечным тэатры існуюць велізарныя магчымасці для самавыяўлення. Але пакуль патэнцыял лялечнага тэатра засвоены не больш, як на палову. Лялечны тэатр пакуль наогул яшчэ не адкрыты, хаця і з'явіўся шмат стагоддзяў назад. Аднак Беларусь можа ганарыцца сваімі лялечнымі тэатрамі — у Гродне, Мінску. Я б вызначыў тут дзве адметнасці: высокую сцэнічную культуру і разнастайнасць. На жаль, як мне падаецца, большасць нашых драматычных пастановак — аднастайныя. А вось калі мне гавораць, што Ляляўскі паставіў новы спектакль, я адразу пытаюся: "А як?"

**— Такім чынам, атрымліваецца, што праблемы лялечнага і драматычнага тэатраў адрозніваюцца?**

— Нашы праблемы аб'ядноўвае адна агульная бяда — адсутнасць грошай. Невядома ўвогуле, што далей будзе з культурай. Вакол такая беднасць! Нашы вядучыя акцёры атрымліваюць заработную плату, эквівалентную 40 доларам ЗША ў месяц. Таму яны вымушаны падзарабляць: хто на радыё, хто на тэлебачанні. А нехта выкладае.

**— На мой погляд, "Лялька" мае яўную нацыянальную адметнасць.**

— Сапраўды, мы іграем на беларускай мове. Нараджэнне тэатра адбылося пад дахам тэатра імя Якуба Коласа і прыпала на час уздыму беларускай нацыянальнай ідэі. Бывае, даводзіцца чуць, што глядачы адмаўляюцца ісці на беларускамоўныя спектаклі. У нас жа амаль кожны дзень — аншлаг. Галоўнае ў спектаклі — мастацкая якасць. Беларуская мова павінна гучаць на Беларусі. І я веру, што яна абавязкова па праву зойме сваё пачэснае месца ў грамадстве.

**— Віцебск — асаблівы горад. Яго нават называюць культурнай сталіцай Беларусі. Мабыць, гэта робіць адбітак і на дзейнасць вашага тэатра?**

— Так, часам мне здаецца, што гэта наканавана звыш, каб менавіта ў такім горадзе быў менавіта такі тэатр. Мы — частка агульнай культурнай прасторы. У Віцебску жыве каля 400 тысяч чалавек. 130 з іх глядзяць кожны наш спектакль, а іграем два разы на дзень. Так што вывады зрабіць няцяжка.

З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ СПЕЦЫЯЛІСТА

● Сяргей ЮРКЕВІЧ, *навуковы супрацоўнік Беларускага інстытута праблем культуры.*

# Гервасій ВЫЛІВАХА ў ЖЫЦЦІ І СМЕРЦІ

Моцныя музычныя акорды разарвалі цішыню глядзельнай залы, быццам бы нейкі невядомы злы Рок вырваўся на свабоду і, лётаючы над грэшнай зямлёй, сваёй неверагоднай сілай пачаў змешваць усё ў адно. З нечалавечым гіканнем і віскатам "выкаціў", "выкуліў" на сцэну групу вандроўных артыстаў, аднаго падняў у паветра, прычапіўшы да рук "крылы", сплеценыя ці то з лазы, ці то з вяровак, якія нагадвалі неглыбокія сялянскія кошыкі. Уся сцэна напоўнілася нейкім незямным мільгаючым асвятленнем і гукамі. Потым — цішыня... і паступова з цемры праяўляецца постаць адзінокага лірніка-апавядальніка...

З такога экспрэсіўнага ўступу пачынаецца спектакль Беларускага тэатра "Лялька" (Віцебск) "Ладдзя Роспачы" паводле аднайменнай аповесці Уладзіміра Караткевіча. Гэта прэм'ера тэатра, якая нарадзілася ў красавіку 2000 года і прысвячаецца 70-годдзю з дня нараджэння вялікага пісьменніка.

Аўтар п'есы Р. Асвяціч беражліва аднёсся да твору У. Караткевіча: захаваў высокую моўную культуру аповесці, філасофскую, інтэлектуальную заглыбленасць герояў, эмацыянальную насычанасць, кампазіцыйную пабудову.

Гэта гісторыя сярэдневяковага беларускага двараніна з-пад Рагачова Гервасія Вылівахі, які і на гэтым, і на тым свеце ніяк не можа ўтаймаваць сваю кіпучую, жыццелюбівую энергію. "Хобаль, залётнік, піяка, задзіра, біток, бабздыр, несамавіты" — так характарызуе яго У. Караткевіч. У Гервасія Вылівахі і яго кампаніі толькі і працы было, "што цягацца па корчмах ды навакольных замках, калі гаспадара няма дома, піць віно, як Дняпро п'е Друць, ды дзярбаніць на лютнях і кімвалах багамерзкія песні". На духоўным судзе Гервасія ды яго кампанію сарамаціў біскуп Смарагд, потым яго выхаваннем займалася каралева Бона, жонка польскага караля Цыкмуна (Жыгімонта); дыскусіравала, спрачалася і, нават, прайграла Гервасію шахматную партыю сама Смерць. Аднак у героя перамагла цяга да звыклага жыцця, калі ў Ладдзі Роспачы ён сустрэўся з дзяўчынай Бярозкай і пакахаў. Пасля гэтай сустрэчы пераважнымі ў яго характары з'яўляюцца адвага, цяга да авантурызму, адсутнасць страху перад Богам і Смерцю, перад жыццёвымі злымі ўчынкамі.

Рэжысёр В. Клімчук вырашыў спектакль у жынры філасофскай прыпавесці з элементамі балагана скрозь прызму сімвалізма, як падарожжа чалавека ў царства Смерці. Сцэнічная прастора, якую стварыў мастак А. Сідараў, нагадвае нешта накшталт апраметні на зямлі. Пасярэдзіне некалькі планаў празрыстых заслон. У глыбіні сцэны — чорная заслона, якая падзяляе месца дзеяння: на зямлі і ў апраметнай. Акружае ўсё гэта вялізная брама, перайсці якую — значыць трапіць у апраметню, у царства забыцця. На першым плане ўверсе месціцца невялікіх памераў планшэт з дамкамі і белай царквой пасярэдзіне, безумоўна, — гэта выява горада Рагачова.

Такім чынам, пастаноўшчыкі са сваім арсеналам зашыфраваных сімвалаў напачатку ідуць як бы трохі наперадзе гледача, тым самым будзяць яго ўяўленне, падключаюць яго асацыятыўную памяць, прымушаючы разважаць, асэнсоўваць не толькі змест, але і сэнс твора.

У цэнтры ўвагі спектакля складаная філасофская трыяда: маскі, лялькі і... людзі — і ўсё гэта існуе ў гарманічным адзінстве, не замінае адно аднаму. Лялькі на зямлі выкананы ў батлейкавым стылі — рознакаляровыя, грэтаскавыя — і дзейнічаюць у скрыні, як у батлеечнай шафе. Лялькі ў Ладдзі Роспачы зусім іншыя. У сэнсавым разуменні — гэта ўжо не жывыя людзі, але і не памерлыя — нейкія істоты на мяжы жыцця і смерці.

На маю думку, у канцэптуальным плане рэжысёр В. Клімчук цікава вызначыў трох персанажаў: Жыццё, каралева Бона, Смерць. Выконвае ўсе тры ролі адна актрыса — Г. Сцепанец. Такое трыадзінства невыпадковае, таму што Жыццё і Смерць — два бакі аднаго медаля, а каралева Бона як бы паміж імі: яна можа дараваць жыццё, а можа і пакараць.

Яшчэ адна акалічнасць, якая надае спектаклю візуальна-эмацыянальнае ўспрыманне: роля Гервасія Вылівахі выконваецца двума артыстамі: у першай дзеі — А. Рыхтэрам, у другой — Ю. Сяменчанкам. Калі Выліваха ў выкананні А. Рыхтэра — гэта ад'яўны "хобаль, залётнік, піяка, задзіра, бабздыр...", які не верыць ні ў Бога, ні ў д'ябла, то ў Ю. Сяменчанкі персанаж зусім іншы: гэта чалавек, які зведаў жахі Жыцця і Смерці, прайшоў праз Чысцілішча, чалавек, які знайшоў сапраўднае каханне, набыў мужнасць і чалавечую мудрасць, зразумеў кошт жыцця. Таму сведка — яркі, эмацыянальна ўзвышаны эпізод на пачатку другой дзеі, калі першы выканаўца перадае ляльку Гервасія Вылівахі другому.

Цяпер аб галоўным прыёме спектакля, які, на мой погляд, узнік не выпадкова. Выканаўцы роляў існуюць як бы ў трох іпастасях: чалавек — чалавек у масцы — чалавек з лялькай. Гэты складаны рэжысёрскі прыём апраўданы філасофскай думкай твора У. Караткевіча. Чалавек у масцы — гэта душа персанажа, лялька — гэта яго плоць. Чалавек і лялька — гэта душа і плоць адначасова. Чалавек без маскі — гэта споведзь душы. Усе гэтыя тры пласты ўзаемаперакрыжоўваюцца, узаемадзейнічаюць між сабой, раскрываючы звышзадачу спектакля і філасофскую думку твора пісьменніка.

Лаканічна і вобразна вырашана сама Ладдзя Роспачы. Верхні планшэт, на якім выява горада Рагачова з царквой пасярэдзіне, апускаецца ўніз, пераварочваецца, і раптам царква "ператвараецца" ў ліхтар, які сваім бляклым унутраным святлом асвятляе апошні шлях тых, каму належыць адыйсці ў забыццё. Гэты метафарычна-сімвалічны ход прачытваецца як адваротны бок зямнога, боскага, чалавечага — пакутлівага, жахлівага, пякельнага. Сама Ладдзя нагадвае вялікі чорны маятнік гадзінніка, які сваім павольным рухам адзначае апошнія хвіліны жыцця пакутнікаў у час шляху па падземным моры.

У фінале спектакля, выразным і аптымістычным, планшэт з ліхтаром падымаецца ўгору, пераварочваецца, і зноў бачыцца выява Рагачова, але царква на ёй свеціцца неверагодна яркім унутраным святлом, як бы кліча да сябе ўсіх тых, каму дапамог вярнуцца з таго свету Гервасій Выліваха. Чалавек вярнуўся да Храма, да Бога і ў гэтым высокая хрысціянская думка. Уся сцэна асвятляецца рознакаляровымі ліхтарамі. Празрыстыя кулісы і заслоны пад рознакаляровым асвятленнем надаюць лёгкасць і лірычнасць. Усё быццам ажывае і пачынае дыхаць новым жыццём. Гэтаму спрыяюць музычнае і светлавое вырашэнні.

Музычная драматургія, створаная кампазітарам А. Залётневым, будуецца на рэзкіх кантрастах: экспрэсіўныя тэмы рока, п'яных баталій альбо падземнага царства пераходзяць у гранічна лірычныя — сустрэчы Гервасія з каралевай Бонай альбо дзяўчынай Бярозкай.

Спектакль атрымаўся светлым, аптымістычным. Гэтаму спрыялі бліскучы акцёрскі ансамбль, добра прадуманая рэжысура і сцэнаграфія.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 677 экз.
Зак. 1659.
Падпісана да друку 4.7.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).